# НАВІНКІ

Серада, 14 красавіка 1999 №6(14) Кошт свабодны


# Мілошавіч вядзе двайную гульню!





## Прашу вашай паддзержкі!

Пакуль мы бяз задняй думкі перажываем за славянскую салідарнасьць, Мілошавіч поўным ходам друкуе перадвыбарчыя агіткі...

Няма сёньня навіны прыемней для славянскай перапонкі, чым жарсныя пасажы Мілошавіча аб дабраахвотнай анэксіі Югаславіі ў склад Беларуска-Расейскага Саюзу. Аж дух заходзіцца, калі ўявіш на мапе паўшар'яў кляксу адзінай славянскай краіны ад Курылаў да Адрыятыкі. Калі на адным канцы Саюзу, ува Ўладзівастоку, зранку бестэрмінова страйкуюць працоўныя, вымагаючы выплаціць даўгі па гадавым заробку, на іншым полюсе Саюзу, у Бялградзе, натаўскія агрэсары наносяць дзяжурны паўночны налёт. Сапраўды, гэта табе ня дробязь у МВФ тырыць. Гэта, братка, магутная дзяржава, здольная абламаць рогі ўсім, хто паспрабуе наяжджаць на крутую славянскую братву!

Не пабаімося нават сказаць, што траісты славянскі Саюз Беларусі, Расеі і Югаславіі ёсьць нішто іншае як новая рэінкарнацыя Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. А калі ВКЛ ужо адрадзіўся – час вызначыцца наконт Гедыміна.

Вось тут і пачынаюца фокусы. Аказваецца, паддаючыся гіпнозу пэрспэктываў агульнаславянскага дому, над якім ніколі не заходзіць сонечны дыск, мы не дастаткова ўрубіліся, што прапазыцыі Мілошавіча могуць мець для Беларусі адваротныя нюансы.

Згодна нашым зьвесткам, з пасылкай на канфідэнцыяльныя крыніцы ў структурах расейскіх дабраахвотнікаў, ягоная (Мілошавічава) сапраўдная мэта – ня веліч славянскага адзінства, а сатысфакцыя сваіх бязьмежных банапартысцкіх амбіцыяў. Абароцісты сербскі лідэр ужо дадаўно прагне дарвацца да агульнасаюзнага грамадзянства, далей прарвацца на расейскую палітычную сцэну і, нарэшце, стаць наступным прэзыдэнтам адной сёмай часткі сьвету. Для гэтага ў Мілошавіча ёсьць усе вартасьці: цэлы зьбіты амэрыканскі самалёт і раскрутка на маскоўскіх каналах.

Першым, хто стане ахвярай такога сцэнару разьвіцьця падзеяў, будуць айцы-заснавальнікі Беларуска-Расейскага Саюзу, а гэта значыць мы – беларусы. Ня будзем крывіць душой – у ружовых снах мы дрыхнем і бачым на чале Саюзу роднага Прэзыдэнта, тым больш, што патрыятычны імідж у яго будзь здаровы, а няхітрую навуку як бамбіць расейскіх фраероў-выбаршчыкаў беларускія палітыкі ведаюць цудоўна. Цяпер жа ў выпадку, калі да бэйсболкі Манамаха дарвецца крэпкі задні розумам Мілошавіч, само сабой узьнікае пытаньне: нашто нам, беларусам, здаўся такі Саюз, ды яшчэ без свайго Бацькі. Хто дасьць заруку, што пасьлязаўтра не зьбяруцца недзе ў Віскулях Драшкавіч, Пазьняк і Навадворская ды не распусьцяць наш кроўны траісты Саюз да ядронай фені.

Вядома, было б прасьцей паслаць надакучлівага Мілошавіча, які намагаецца падсесьці на хвост славянскай інтэграцы, падалей і спакойна чакаць, пакуль Елкін-Палкін дасьць дубу. Гэтак можа і паступіў бы нейкі палітычны недарэка з камітэту ВС-13 па геапалітыцы, але мы – людзі, якія жывуць заўтрашнім днём.

Сёньня напярэдадні новага раўнду аб'яднаньня Беларусі і Расеі фактар Югаславіі (а не наяўнасьць унутранай беларускай апазыцыі) – адзіны гарант таго, што наша краіна захавае незалежнасьць і магчымасьць палітычнага манэўру. Каб ня ўдарыць тварам у бруд перад новым партнэрам, Расея ня пойдзе на шчыльны блёк зь югаславамі, а значыць і зь беларусамі. Гэткім чынам, Мілошевіч зараз нам вельмі карысны. Ягонымі рукамі мы будзем змагацца супраць NATO і, калі трэба, стрымліваць імпэрскія захады пэўных расейскіх палітыкаў. А наконт будучага саюзнага лідэру мы яшчэ паглядзім...

## ГарАчая Лінія

«Ці будзе аб'яднаньне фінансавых сыстэмаў Беларусі й Расеі?», «Які працэнт інфляцыі чакаць у другім квартале?», «Што такое сэквэстар?» на гэтыя і іншыя пытаньні чытачоў газэты «Навінкі» адкажа ў прамым эфіры госьць рэдакцыі былая старшыня Нацбанку Тамара Віньнікава.

## Востраў Крэдытаў знойдзены ў Ціхім акіяне (стар.4)




## Італьянская мафія ставіць на беларускі футбол



Такога выніку для нацыянальнай зборнай Беларусі ў матчы з італьянцамі ня мог прадказаць ніхто. Напярэдадні спартовыя камэнтатары спрачаліся толькі наконт таго, зь якім лікам беларусы сальюць гульню «макароньнікам». Адпаведнымі былі і прагнозы букмэкераў. Стаўкі на згаданы матч прымаліся па курсу 150 да 1. Зразумела, на карысьць суайчыньнікаў Пінокіо. Але ж знайшоўся ўва ўсёй Італіі нейкі ідыёт, які зрабіў стаўку на зборную Беларусі. «Бабено, крэзі», шчыра пасьмейваліся букмэкэры з таго дзівака. А «ідыёт» ведаў, што рабіў...

Пачатак матчу не прадвяшчаў нічога нечаканага. Тыфозі, пажыраючы піцу ў дарагіх сэктарах, яхідна пацірали рукі ў чаканьні фэервэрку галоў, што паводле лёгікі былі павінны вось-вось пасыпацца ў вараты Шамаловіча. Але ўжо праз пару хвілінаў па стадыёне разьнесься грукат цішыні... Стар. 4

## «Вольныя танцы» ў Бялградзе на пл. князя Мілаша Вялікага




«NRM», «Крама», Андрэй Мельнікаў, Кася Камоцкая і інш. зоркі беларускай эстрады ў падтрымку Сербскага Збройнага Чыну.

*Квіткі ў Супрановіча.*

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Тыраж 8100 экз. Адрас для карэспандэнцыі: п/с42, 220085 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by

## Справядлівасьць адноўленая

***Поўнай перамогай скончыўся судовы працэс газэты «Навінкі» супраць жоўтага бульварнага лістка «Навіньі», які намагаўся быў эксплюатаваць добрае імя легенды беларускай прэсы.***

Прычынай да іску паслужыла яўнае падабенства лягатыпаў абодвух выданьняў. Вядома, гэтым наўмысна карысталася кантора Жука энд К[а], прапіхваючы на газэтны рынак сваё нізкапробнае чытво. Падабенства шапак часьцяком уводзіла пакупнікоў у зман: замест сваёй улюблёнай газэты *Навінкі* ў іхныя рукі трапляў жоўты лісток з падобнай назвай – *Навіньі*. Зьмяніўшы толькі адну літару ў назьве, плягіятары меркавалі падняць свой тыраж і накасіць бабак, бессаромна дурачы даверлівых пакупнікоў. У выніку газэта *Навінкі* несла значныя страты як у матэрыяльным, гэтак і ў маральным пляне.

Гэта не магло больш працягвацца далей. Выкарыстоўваючы той факт, што газэта *Навінкі* мае аўтарскае права на фірмовы лэйбл «Навінкі», рэдакцыя апошняй падала на газэтных піратаў у суд. У выніку разьбіральніцтва падрабязнасьцяў справы, якое адбылося 2 красавіка, суд палічыў доказы рэдакцыі *Навінак* абсалютна законнымі й абгрунтаванымі і пастанавіў: абавязаць газэту *Навіньі* ў тыднёвы тэрмін зьмяніць лягатып газэты, а таксама заплаціць штраф на карысьць газэты *Навінкі* ў якасьці кампэнсацыі за маральныя і фінансавыя страты. Махляры й прайдзісьветы зноў атрымалі па заслугах.

## Апазыцыя выходзіць на ленінскі суботнік

***Апазыцыянэры таксама не пазбаўленыя сумленьня. Але гэтыя прыступы бываюць у іх вельмі рэдка.***

Хадзячая народная прымаўка сьцьвярджае – раз у год і палка страляе. Нешта падобнае да палкі-стралялкі адбываецца і з нашымі апазыцыянэрамі, якім час ад часу штуршкі грамадзянскага сумленьня стукаюць у галаву. У гэтым годзе нам ізноў пашчасьціла назіраць гэткія загадкавыя палітычныя фэномэны. У нядзелю 25 красавіка а 12 гадзіне ў сталіцы адбудзецца незвычайная дабрачынная акцыя. Тысячы адвязных апазыцыянэраў зьбіраюцца прадэфіляваць па вуліцах Менску ў рамках ужо традыцыйнай дэманстрацыі «Чарнобыльскі шлях».

«Што ж тут незвычайнага?» – усклікне чытач, якому вылазкі пятай калёны NATO ўжо ў вантробах. – «Што я ня бачыў пакалечаных хлапчукоў-амапаўцаў і перавернутых машынаў?»

Незвычайна тое, шаноўны дружа, што на гэты раз дэманстранты будуць пратэставаць бясплатна!

Звычайна, згодна інфармацыі канторы Зімоўскага, кожны ўдзельнік антыўрадавых акцыяў атрымлівае ад заходніх спэцслужбаў паважны ганарар. Прэйскурант: $10 за марш і $5 за пікет. Акрамя таго, налічваюцца каэфіцыенты за шкоднасьць, за нясеньне транспарантаў, сьцягоў і г.д. За кожную звышгадзінную працу апазыцыянэрам у камэры на Акрэсьціна або на Валадарцы башляюць дадаткова, таксама паводле годных тарыфаў, прычым наяўным зялёным кэшам. Аднак за акцыю 25 сакавіка на банкаўскія рахункі апазыцыі не перападзе нават ломанага цэнту.

Бачу на твары чытача сьлязу замілаваньня. «Як!» – пранікнецца чытач. – «Няўжо ў асяродзьдзі здраднікаў Радзімы ўзялі верх маральныя ідэалы індыйскага дысыдэнта Гандзі, які завяшчаў, што сапраўднаму апазыцыянэру з прадметаў матэрыяльнага сьвету дастаткова адных плавак і прасьціны?!» Натуральна ж не, інакш хто ж тады ў нас змагаўся б з праклятай дыктатурай. Хіба што толькі нудысты і агенты КДБ. Акцыя 25 красавіка аднаразовая і пройдзе ў рамках штогодняга ленінскага суботніку, што прыпадае акурат на апошні тыдзень красавіка.

## *Мірны Атам*

### Сакрэт Чарнобылю

Сэнсацыйную вынаходку, якая можа прачыніць заслону таямнічасьці над прычынамі аварыі на Чарнобыльскай АЭС, зрабіла група расейскіх вучоных-наватараў.

Нарэшце была расшыфраваная сэйсмаграма, якая трапіла ў рукі навукоўцаў яшчэ ў 1986 годзе. Спачатку ёй не надалі вялікай увагі. Маўляў, ці мала якога барахла можна знайсьці, ды закінулі гэтую бабіну ў доўгую скрыню. І толькі праз 13 гадоў пасьля аварыі лябарант выпадкова зазірнуў на паліцу, дзе й натыкнуўся на пазабытую бабіну. Прааналізаваўшы паказчыкі сэйсмографу навукоўцы ўзяліся за галовы: 26 красавіка 1986 году ў раёне ЧАЭС было зафіксаванае кропкавае землетрасеньне сілай 9 балаў! Прычым злапалучны 4 энэргаблёк апынуўся акурат у эпіцэнтры гэтай рэдкай анамальнай зьявы. Вядома, такога штуршку ня вытрымае ніводзін рэактар, нават савецкі.

Але хто мог рабіць запісы падземных штуршкоў у прыпяцкіх балотах?

Аказалася, што экспэдыцыя сэйсмолягаў, якая накіроўвалася на Цянь-Шань, набухалася з геолягамі-мэліяратарамі. Ну дык і зблыталі па п'яні: сэйсмолягаў адправілі на Палесьсе, а мэліяратараў – асушаць Цянь-Шань.

# Яе шукае міліцыя

## Увага! Агульнарэспубліканскі вышук!

Прапала дзяўчынка. Выйшла з дому па хлеб і не вярнулася. Асаблівыя прыкметы: была апранутая ў халат у буйную бела-блакітную палоску, хатнія пантофлі зь вялікімі чорнымі пумпонамі, срэбныя бранзалеты. Іншыя прыкметы могуць зьмяняцца.

Няшчасны бацька просіць дапамагчы ў пошуку дзяўчынкі. Просьба ўсім, хто сустракаў дзяўчынку, неадкладна правесьці затрыманьне да прыезду бацькоў альбо сваякоў і паведаміць праз тэлефон 02.

Дабразычліўца чакае шчодрая ўзнагарода.







# Рапарт

## *сакрэтнага супрацоўніка аддзелу ведамаснай аховы 013 з правам на лёгкія цялесныя пашкоджаньні*

07.04.1999 г.

17.00 Заступіў на службовае дзяжурства. Аб'ект В. знаходзіўся ў сваім пакоі і займаўся цыраваньнем калготаў. Аб'ект В. быў пазбаўлены іглы і папярэджаны адпаведна інструкцыі МУС РБ № 136 «Аб утрыманьні гэтага вар'я банкірскага пад вартай» аб забароне мець пры сабе рэжучыя і колючыя прадметы.

17.07 Аб'ект В. прапанаваў згуляць у «тысячу». Пагадзіўся. Падчас гульні В. неаднаразова ўлічаны ў махлярстве (у рукаве халату В. была абнаружаная чырвовая хваля). Гульня прыпыненая ў сувязі зь яе яскрава акрэсьленым азартным характарам.

17.25 Аб'ект В. накіраваўся ў бок санвузлу зь невядомай мэтай. Я паспрабаваў пранікнуць у санвузел з мэтай кантролю сытуацыі, але з боку Аб'екту В. быў падвергнуты абразе.

17.30 Праз дзьверы санвузлу Аб'ект В. папярэджаны аб адказнасьці за абражаньне службовай асобы пры выкананьні службовых абавязкаў.

17.45 Аб'ект В. атрымаў перадачу ад родных і паплечнікаў на волі. У перададзеных прадуктах наркатычных рэчываў, зброі, замежнай валюты ня знойдзена. Канфіскавана:

а) кніга А.Дзюма «Граф Монтэ-Крыста» як не рэкамэндаваная для чытаньня ва ўмовах хатняга арышту;

б) пілка для пазногцяў, якая перавышала дазволены памер шарахаватасьці;

в) пачак гігіенічных падкладак «Libresse».

17.53 Пад вокнамі спальні Аб'екту В. было зафіксавана сьпяваньне куплетаў правакацыйнага зьместу: «Тома, Тома, выходи из дома...». У асобе выканаўца быў апазнаны вядомы жоўты журналіст-аналітык Фядута. З мэтай прысячэньня супрацьпраўнага дзеяньня (заклік да зьдзяйсьненьня пабегу) быў уключаны на поўную моц радыёпрымач першай праграмай Беларускага радыё. (Стэнаграма перадачы прыкладаецца).

18.03 Разам з Аб'ектам В. накіраваўся на прадугледжаную рэжымам утрыманьня прагулку па двары дому. Падчас прагулкі Аб'ект В. неаднаразова спрабаваў увайсьці ў кантакт з выпадкова апынуўшыміся ў ліфце, пад'езьдзе і двары дому журналістамі г.зв. «незалежных СМІ» і пасламі г.зв. замежных дзяржаваў. Усе кантакты мной адразу апэратыўна прысякаліся.

18.10 Падчас вячэры Аб'ект В. у катэгарычнай форме адмовіўся ад рацыёну:

а) біфштэкс па-французску зь ялавічыны з арэхамі і мальтыйскім соўсам кінуты на падлогу й растаптаны;

б) 4 слоікі ікры чорнай выкінутыя праз вакно на праежджую частку;

в) віно «Кабэрнэ», 0,75л., вылітае ва ўнітаз. (Акты сьпісаньня прыкладаюцца.)

19.00 Аб'ект В. пачаў прагляд па тэлевізары праграмаў, дазволеных Дзяржтэлерадыёкамітэтам: «Навіны», «Калыханка», «Спокойной ночи, малыши!», беларуская рэкляма на ОРТ.

19.22 Ліквідаваная спроба несанкцыянаванага прагляду фільму «Беглецы» па каналу НТВ.

20.00 Пачалася трансляцыя футбольнага матчу Лігі чэмпіёнаў «Дынама» (Кіеў) – «Баварыя» (Мюнхен). Аб'ект В. глядзець гульню адмовіўся на той падставе, што ад крыкаў у яго баліць галава, і сышоў у свой пакой.

20.09 Нашыя забілі гол. З гэтай нагоды паспрабаваў павіншаваць Аб'ект В., але ў другі раз быў абражаны з выкарыстаньнем ненарматыўнай лексыкі.

20.18 Нашыя забілі другі гол. З гэтай нагоды зноў зрабіў спробу павіншаваць Аб'ект В., але ў пакоі Аб'екта В. не аказалася. Не аказалася В. і на кухні, і ў санвузлу, і на антрысолях. Вызначыўшы, што ўваходныя дзьверы адчыненыя, і карыстаючыся іншымі апэратыўнымі дадзенымі, канстатаваў факт пабегу.

20.46 Па заканчэньні першага тайму я адпаведна інструкцыі інфармаваў вышэйстаячае кіраўніцтва аб факце пабегу.

Разумею ўвесь цяжар свайго праступку і прашу паслаць мяне дабраахвотнікам на самы адказны ўчастак сербска-натаўскага фронту. (Даведка аб стане псыхічнага здароўя прыкладаецца).

## Мэтамарфозы супраціву

### За тры гады антыаўтарытарнага супраціву шмат што зьмянілася ў стане барацьбітоў за дэмакратыю й незалежнасьць...


















# У бой ідуць адны штрафнікі

## Апазыцыя выкарыстала гістарычны шанец пакаяцца перад народам за былыя злачынствы. Але змываць віну дэмакратычным герастратам прыйдзецца крывёй!

Вой сырэны ўспудзілі мірны сон начнога Бялграду. У дысананс нядаўняй ідыліі нябесны экран грузіцца манатонным гулам амэрыканскіх бамбавозаў. Сьвінячым рылам набліжаецца кодла нябачных «стэлзаў». Яны адчуваюць сябе крутымі.

Нават няўзброеным вокам бачу ў кабіне першага спакойную да нахабнасьці рожу пілота-нэгра з маноклем і банкай «Хольстэну». Раптам прама ў стан натаўскіх сьцярвятнікаў кідаецца звычайны кукурузьнік. Гэта У-2.

«Нябесны ціхаход» без усялякага багабойнага трапятаньня перад супэртэхнікай ворага заходзіць да янкі ззаду і прамой наводкай плюе яму ў хвост кулямётнымі чэргамі. Галёная тлустая патыліца амэрыканскага аса ўздрыгвае ад нечаканасьці. Ён дзёргае на сябе счапленьне і спрабуе адарвацца. Ня сыйдзеш, гад! Кукурузьнік круціць пятлю Несьцерава і штопарам заходзіць на таран. Хрась! – і натаўскі салабон фанэрай ляціць долу. Фэервэрк выбуху іскрамі запырсквае далягляд.

Астатнія «стэлзы» і крылатыя ракеты з жахам расьсейваюцца хтокуды і, наклаўшы поўныя штаны, сьпяшаюцца дамоў на родныя базы. А У-2, праводзіўшы натаўскага себялюбца ў магілу, ювэлірна заходзіць на пасадку. Рысьлю кідаюся да штурмана кукурузьніка. Насустрач мне чынна рушыць статная дзяўчына, рысы твару якой падаюцца мне вядомымі. Але гэта не прывід мінулага. Гэта сапраўды яна – тая самая Аліна Бельская, былая амазонка МФ, якая праходзіла па справе Шыдлоўскага і своечасова зваліла за кардон. Пакуль супрацоўнікі аэрадрому малююць на фюзэляжы яе самалёту яшчэ адну (дваццатую!) зорку, гераіня велікадушна пагаджаецца на кароткае інтэрвію.

*Смелы таран у начным небе Бялграду. Натаўскі ваяка надоўга запомніць моц славянскіх крылатых машынаў. Хвалёныя невідзімкі бясьсільныя перад праваслаўнай кемлівасьцю. Навука перамагаць усмоктаная намі з малаком маці*



**– Аліна, маладыя людзі памятаюць Вас, як на чале бел-чырвона-белай своры падлеткаў, улюлюкаючы антыпрэзыдэнцкія паролі, Вы лёталі па дварах і цёмных завулках. Што прывяло Вас на сербскія рэдуты?**

– Сёньня мы, беларускія апазыцыянэры, па прыкладу сваіх сербскіх калегаў угаманіліся і падаліся ў сьвяты бой за агульнаславянскія дабрадзецелі. Таму не магчыма мне было далей тусавацца на Хельсінскіх курортах, калі тут такая заварушка.

**– Як вас прынялі сербы?**

– А як бы Вы прынялі людзей, у якіх за гнілой душонкай анічога, акрамя штрафаў за парушэньне парадку арганізацыі і правядзеньня масавых шэсьцяў і мітынгаў? Нездарма нас называюць тут штрафнікамі. I паверце мне, гэта ня проста трапная мэтафара. Каб зарэкамэндаваць сябе як людзей вартых племя славянаў, беларускія дэмакраты вымушаныя крывёй змываць зь сябе плямы былых дэмакратычных злачынстваў. Таму наша група стала касьцяком мясцовага заград-атраду.

**– Гэта што, нешта накшталт будатраду?**

– Наш атрад, што, дарэчы, носіць імя Бары Алібасава, выконвае самыя цяжкія заданьні, на якія нават не пасылаюць мясцовы спэцназ. Возьмем, напрыклад, захоп у палон трох амэрыканскіх гора-ваякаў на мяжы з Македоніяй. Зразумела, не абышлося бязь беларусаў. «Языкоў» бралі на жыўца, ролю якога выконваў якраз наш атрад. Мы сядзелі на мяжы і падманьвалі гучнымі енкамі: «Ратуйце! Албанцаў б'юць. Дзе ты, храбры салдат NATO?» Хутка рыбка клюнула.

**– Ці ёсьць у беларускім Замежным легіёне «пазастатутныя» дачыненьні?**

– А вы што думалі – у казку трапілі. Гэта вам не на IBB грантадаўцам мозгі прамываць. Калі пагадзіўся служыць – рыхтуйся да сапраўдных мужчынскіх выпрабаваньняў. Напрыклад, «парцейства». Тут жорстка – сябры Фронту шчэмяць на кухні валанцёраў АГП, сацыял-дэмакраты Трусава драюць ачко пад наглядам ружовых калегаў Статкевіча і г.д.

**– Але ня ўсе, напэўна, падтрымліваюць ініцыятыву дапамогі братняй Югаславіі. Ці ёсьць беларусы на варожым баку?**

– Як гаворыць народ: «У сям'і не без урода». Наколькі я ведаю, у Марскім Флоце Вызвольнай Арміі Косава, на падводным чоўне «Русалка» служыць капэланам незаконнанароджанны сын Пазьняка – Зянон Зянонавіч Пазьняк. Гэта сапраўдны монстар, у параўнаньні зь якім чачэнскі палявы камандзір Хатаб – вялікі гуманіст Леў Талстой. На ліку гэтага калябарацыяніста прорва замардаваных славянскіх патрыётаў. Мару злавіць гэтага іхтыяндра'і паглядзець, якога колеру ў яго бел-чырвона-белая кроў.

**– Ну што ж, Аліна, пажадаем Вам посьпехаў. А галоўнае – выжыць!**

– Служу БРЮСу!

**– Каму, прабачце?**

– Беларуска-Расейска-Югаслаўскаму Саюзу!!! Крыса тылавая!

**– Дзякуй за размову.**

Падрыхтаваў Марын Некіч
*Менск-Бялград*

## Бел. мова

### «Куфэрак проста адчыняўся»

Нарэшце была ўрэгуляваная чарговая філялягічная непанятка, што ўскалыхнула ўвесь мовазнаўчы бомонд Беларусі. Напачатку тыдня на руках апазыцыйна настроенай публікі зьявіліся дзіўныя ўлёткі. На пытаньне «Адкуль?» уладальнікі ўлётак у адзін голас кляліся й бажыліся, што гэтыя лісткі трапілі да іх літаральна зь неба.

Увагу прыцягваў перш за ўсё незвычайны правапіс, якім быў напісаны тэкст улётак. З уласна сэнсу невядомага пасланьня можна было разабраць толькі асобныя ўстойлівыя ідэаматычныя выразы: «Амэрыка і NATO – добра, Расея, Сербія, Лукашэнка – ня добра». Думаць далей над паходжаньнем літаратуры не было патрэбы.

На Ўправе БНФ беспамылкова вырашылі, што праклямацыі маюць яўна амэрыканскае паходжаньне, а дзіўная на першы погляд мова – чарговы выпендрёж беларускай эміграцыі ў галіне беларускай граматыкі. «Зусім яны там у Нью-Ёрку абалдзелі!» – абураўся Вінцук Вячорка, разьюшана крэсьлячы чырвонай асадкай чарговую памылку. Новы беларускі правапіс хутка атрымаў быў назву «мілошавіца» (ад імя невядомага філёляга Мілошавіча, імя якога найбольш часта сустракалася ў тэкстах улётак). Але неўзабаве ўсё стала на свае месцы. Разгадка прыйшла зусім нечакана.

Высьветлілася, што NATO, пераймаючы досьвед савецкага камандаваньня пад Сталінградам, поўным ходам вядзе ідэалягічную апрацоўку югаслаўскага насельніцтва: разам з бомбамі й ракетамі на шматпакутную югаслаўскую зямлю ляцяць тоны праклямацыяў і падрыўной літаратуры на серба-харвацкай мове. «Серб, здавайся! Мілошавіч капут!» і г.д. у такімсама духу слоганы, на думку натаўскіх генэралаў, мусяць наблізіць трыюмф натаўскай зброі. Але апошняя ідэалягічная бамбардзіроўка Югаславіі скончылася поўным правалам: тоны варожай макулятуры былі падхопленыя віхрамі антыцыклёну і разьвеяныя па ўсёй Эўропе.

## Адзінокае плаваньне-2

Чаго толькі не напрыдумляюць заходнія СМІ, каб ачарніць міратворчую ролю Беларусі й Расеі ў вырашэньні Балканскай праблемы. Вось і цяпер агенцтва «Рэйтэр» на выперадкі зь Бі-Бі-Сі паднялі паніку вакол расейскага судна «Ліман», якое днямі зьявілася ў водах Адрыятычнага мора. Маўляў, Крэмль даслаў крэйсэр-разьведчык у Адрыятыку, каб бесьперашкодна стучаць сербам на натаўскія самалёты.

Расейскае атамнае кітабойнае судна «Ліман» зьявілася ля берагоў Чарнагорыі абсалютна выпадкова. Знаходзячыся ў складзе кітабойнай флатыліі, судна «Ліман» прымала ўдзел у паляваньні на сініх тыгровых кітоў-людаедаў, якія каля 3 месяцаў тэрарызавалі чарнаморскае ўзьбярэжжа Расеі ў раёне Сочы.

Нечаканае зьяўленьне марскіх драпежнікаў у акваторыі пляжаў Сочы кінула ў роспач усю берагавую службу ратаваньня. Здарыўся нават трагічны выпадак, калі кіт-людаед зацягнуў у пучыну трох «маржоў», што спрабавалі адкрыць купальны сэзон у сярэдзіне лютага.

Тут і прыйшлі на дапамогу вайскоўцы, якія арганізавалі паляваньне на марскіх монстраў. Падчас аднаго з такіх рэйдаў і пачынаецца гісторыя зь «Ліманам». Загарпуніўшы кіта-кабяля, «Ліман» аказаўся закладнікам цуда-юды на доўгія 2 тыдні, матляючыся з Чорнага мора ў Адрыятычнае й назад.

Аднак вярхоўнае камандаваньне NATO абвяргае вэрсію расейскага Генштабу й працягвае разьдзімаць нездаровы ажыятаж вакол нейкіх расейскіх рыбалоўных авіяносцаў зь ядзернымі гарпунамі на борце.

## Полтэргейсты на перадавой

Падобна, што апошнім часам у сьвеце актывізуюцца паранармальныя сілы. Не пасьпелі аправіцца ад шоку пасьля магічнага зьнікненьня былой старшыні Нацбанку проста з падносу ўзмоцненай спэцаховы КДБ, як новы чарадзейскі фінт Генгемы ўстрос Эўропу.

20 тысячаў албанцаў зьніклі зь лягераў для ўцекачоў у Македоніі. Пакінуўшы па сабе ўспамінам толькі горы сьмецьця, экскрымэнтаў і заявак на пераезд у Злучаныя Штаты, касавары нібы праваліліся праз зямлю. Дарма камандаваньне NATO шукала небаракаў па сваяках і знаёмых.

Лёс шматтысячнай албанскай брацціі высьветліўся толькі праз дні два: усе яны жывыя й здаровыя апынуліся... у сваіх цалёханькіх (нібыта разбураных сербамі, як заяўлялася раней) хатках на акраінах Прышціны.

Як паведамляе югаслаўскае інфармацыйнае агенцтва ТАНЮГ, былыя ўцекачы адчуваюць сябе добра й больш не зьбіраюцца паўтараць сыход. Інакш кажучы, у гасьцях добра, а дома лепей.









## АНТЫКОМІКС

# Востраў Крэдытаў

## *Як хлопчык Дзіма сарваў пляны хціўных казнакрадаў*

Ад бюджэтнай кухаркі да ўсіхмоцнага старшыні Камітэту харчовай бясьпекі, ад салагі-падлетка да пачціннага аксакала. Усе сацыяльныя падвіды Беларусі скрыбуць сёньня патыліцы ў пошуках адказу на пытаньне: куды ж падзеліся дзяржаўныя крэдыты, якім прырабілі ногі казнакрады-дэмакраты? Нарэшце, у гэтай справе, гучнай, як стрэл пад Лёзнам, і цёмнай, як «Чорная Кошка», успыхнуў праменьчык сьвятла.

Днямі ў рэдакцыю «Навінак» завітаў хлопчык Дзіма, трымаючы ў руках мапу аднаго востраву ў Ціхім акіяне. Па словах хлопца, колькі дзён таму на ягоных вачах разыгралася цікавая гісторыя, што мае прамое дачыненьне да крэдытных афэраў. Усё пачалося з таго, што маці пацана здала пакой аднаму пастаяльцу, які вёў сябе вельмі падазрона. Нікуды не выходзіў, гадзінамі сядзеў над каваным кейсам і гарланіў пад гарэлку дурацкія куплеты:

*«Пятнаццаць казнакрадаў*
*на дзяржаўны бюджэт*
*Ё-хо-хо, і крэдыт у банку*
*Бяры ссуды, і пракурор*
*давядзе цябе да турмы*
*Ё-хо-хо, і крэдыт у банку!»*

Аналізуючы масьці, якія хлопец зрысаваў зь цела пастаяльца («Вася», «Да збудуцца мары фабрыканта Пупейкі» і інш.), можна з пэўнасьцю канстатаваць, што гэта быў уласнай пэрсонай сам «ушывая блаха» Пупейка (былы крэдытны клептаман). Відавочна, што прадпрымальнік вёў такі дзіўны вобраз жыцьця не з асабістага буржуйскага капрызу. За ім па пятах з самымі нядобрымі намерамі йшлі ягоныя былыя падзельнікі. Іі яны яго знайшлі.

**«Кр-р-рэдыты! Кр-р-рэдыты!» – крычаў папугай на плячы двухногага Чыгіра**

Адным днём ужо пад вечар у дзьверы пагрукалі. Адчыніў Дзіма. Перад хлопцам стаяў белы як лунь стары: «Я чую голас. Гэта дзіцячы голас. Правадзі мяне да Пупа!» Убачыўшы старога, фабрыканта схапіў удар: «Відушчы Шчукін!». «Так, Пуп, гэта я. Мяне прыслаў двухногі Чыгір. Аддай тое, што належыць нам!»

Слова за слова – палілася мацяршчына. «Не, не,» – крычаў разьюшана Пуп. – «Няхай гэтыя крэдыты не дастануцца нікому, чым пойдуць на нейкія дурныя сэмінары па трэнінгу дэмакратычных лідэраў прадвінутай ступені! Так і перадай двухногаму Чыгіру!» Потым раздаўся грукат біцьця посуду. Стары выбег з пакою і, сеўшы ў ліфт, адчаліў.

Хлопчык асьцярожна паглядзеў у пакой. На падлозе валяўся страціўшы прытомнасьць банкір. На стале ляжала бел-чырвона-белая метка з надпісам «Выключаны».

«Мне пісец!» – сказаў фабрыкант, троху ачуняўшы. – «Праз пару гадзінаў яны прывядуць легіён, я ведаю двухногага. Гэта сапраўдны д'ябал». Хлопчык паспрабаваў супакоіць Пупейку. «Ня трэба нэрвавацца. Зараз я паклічу міліцыю. Вас пасодзяць. Вы адсядзіце паложаныя вам 25 гадкоў і выйдзіце чэсным і чысьценькім чалавекам. Толькі не хвалюйцеся». «Так-так!» – зароў Пупейка. – «Лепш на нары, толькі б не дзяліцца з гэтымі гора-палітыкамі. Вазьмі вось гэта і бяжы. Ім патрэбна гэта». Ён сунуў хлопцу нейкую дыскетку, і зноў адрубіўся. Гадзіньнік прабіў восем.

Дзіма быў разумным хлопчыкам і ведаў, што трэба рабіць. Ён адразу пабег на пятак падымаць братву. Толькі ён пасьпеў сігануць у вакно, як у ягоны пакой уваліліся нейкія жыганы зь бел-чырвона-белымі павязкамі, якія тут жа перакулілі ўсё ўверх дном. Кіраваў налётам відушчы Шчукін. Старога аж сучыла ад нецярпеньня: «Вы знайшлі яе?» – паўтараў ён штосэкунды.

«Грошы тут! Мля, даляраў трыста. Гэтага хопіць на аплату паловы тваіх штрафаў.» – «К чорту даляры! Я кажу пра дыскету. Шукайце, шукайце! Калі мы яе знойдзем, вы будзеце багацей за Ціцянкова!» «Шчу», – зноў зароў хтось наверсе. – «Нехта пабываў тут да нас. Дыскеты няма!» «Гэта ўсё той сучонак. Шкада, што ня выразаў яму пагоню на целе! Знайдзіце яго. Я сваімі рукамі задушу гэтага маленькага патрыёта!»

«Гэй, казьліна, тут я!» – перад старым стаяў сам хлопчык Дзіма, за сьпінай якога сапела кодла мясцовых пацаноў з ланцугамі й ламамі наперавес. Гэтых словаў аказалася дастаткова, каб дамушнікі, пакідаўшы трафэі, кінуліся прэч.

Назаўтра хлопчык пажалаваў да нас у рэдакцыю. Мапа востраву, якая была запісаная на той самай дыскеце, мела кучу нейкіх значкаў і крыжыкаў. Аднак, відавочна, што тут, на гэтым востраве, акурат паміж вострвам Пасхі і Новай Зэляндыяй, злодзей Пупейка зарыў нясьметныя крэдыты, награбленыя ў беларускага народу. Цяпер – слова за матросамі. ●


Геройскі хлопчык Дзіма

# «Санта Барбара»:

## дывэрсія амэрыканскіх імпэрыялістаў прыпыненая

Нарэшце ненавісьнікі «Санта Барбары» атрымалі сатысфакцыю: галімая амэрыканская мыльная опэра больш ня будзе мазоліць вочы і перабіваць трансляцыю Чэмпіянату Расеі па футболу. Афіцыйнай адмазкай ад працягу паказу кіраўніцтва РТР выставіла спрадвечную расейскую галоту: маўляў, няма бабак, і ўсё тут.

Але прычыны, зь якіх валадары розумаў ад РТР адмовіліся ад мілай публікі з рэстарану Кэпвэл Энтэрпрайзэс, на шмат складаней і сур'ёзьней. Высьветлілася, што дэманстрацыя «Санта Барбары», якая пачалася ў 1991 годзе, – добра прадуманая ідэалягічная дывэрсія, накіраваная на поўнае маральнае разлажэньне нашага грамадзтва. Справа ў тым, што ў гэтым сэрыяле па-за адкрытай прапагандай буржуазных каштоўнасьцяў вядзецца тайная псыхалягічная апрацоўка мозгаў гледачоў.

Практычна гэта ажыцьцяўлялася шляхам выкарыстаньня г.зв. «эфэкту 25 кадру».

Прынцып узьдзеяньня эфэкту палягае на наступным: хуткасьць аднаўленьня кіна- ці тэлевыявы – 24 кадры ў сэкунду; калі ў кожны блёк па 24 кадры ўстаўляць адзін кадар з пэўнай інфармацыяй, то на сьведамым узроўні яна не ўспрымаецца гледачом. Але гэтая інфармацыя стала адбіваецца ў падсьвядомасьці. Такім чынам, у чалавечую падсьвядомасьць можна закласьці ўсё, што заўгодна.

Уявіце сабе, Мэйсан прызнаецца ў каханьні Джуліі, Круз адстрэльваецца ад навязьлівага Керка, Сісі чарговы раз жэніцца на Сафіі, а ў гэтысама час у галовы сьлязьлівых тэлегледачоў патокам грузяцца файлы з дэструктыўнымі ўстаноўкамі: «Расею ў НАТО, Думу за краты», «Серб расейцу не таварыш» і г.д.

Калі ўлічваць, што «Санта Барбару» глядзелі жанчыны й пэнсіянэры, то гэта дывэрсія наўпрост скіраваная супраць электарату парадку й стабільнасьці. З дапамогай 25-га кадру ў мозгі нашых жонак, бабулек і дзядулек пранікалі ідэі, якія разбураюць маральныя ўстоі славянскага традыцыйнага грамадзтва. Адсюль – абвальная Чубайсава ваўчарызацыя...

Ні для кога не сакрэт, што зараз ідзе фармаваньне новай імпэрыі, імя якой НАТО, што пастаянна пашыраецца. Ідзе вострая барацьба за новыя тэрыторыі як палітычнымі, гэтак і вайсковымі мэтадамі. Але існуе яшчэ адзін аспэкт гэтага пашырэньня. Псыхалягічная вайна, накіраваная на аслабленьне маральнага духу насельніцтва, вядзецца практычна ўва ўсіх краінах.

Варта прызнаць, што тут імпэрыялісты маюць пэўныя посьпехі: у NATO засмактала Польшчу, Чэхію і Вугоршчыну - былыя краіны Варшаўскага дагавору. Дарэчы, варта ўзгадаць, што па цэнтральных тэлеканалах гэтых краінаў з 1989 году бесьперашкодна дэманстраваўся амэрыканскі тэлесэрыял «Далас». Бяскрыўдны на першы погляд факт перакуліў дагары нагамі ўсю геапалітычную сытуацыю ў нашым рэгіёне.

Аднак супрацоўнікі ФСБ раскрылі гэтую гнюсную змову. Так, згубленыя 8 гадоў, але лепш позна, чым ніколі! Паказ сэрыялу «Санта Барбара» цяпер прыпынены назаўсёды. Вядзецца сьледзтва. ●

**Валдзіс Сяк**

# Італьянская мафія ставіць на беларускі футбол

СА СТАР. 1

Знакамітых «блакітных маланак» было не пазнаць. У містычным жаху распаўзаліся яны з-пад ног беларускіх форвардаў, адкрываючы калідоры й прапускаючы перадачы. Легенды сусьветнага футболу адскоквалі ад мячу як першаклясьнікі, баючыся лішні раз закрануць яго бутсай. У такой сытуацыі падапечныя Вергіенкі лёталі па полі, як матылькі, віртуозна гуляючы з макароньнікамі ў кошкі-мышкі, ды ўрэшце-рэшт завяршылі атаку элегантным голам Бялькевіча ў вароты дэмаралізаванага праціўніка. Італьянцы нават не спрабавалі ўзяць рэванш. Калі ж судзьдзя прызначыў пэнальці ў нашы вараты, італьянскі бамбардзір, здавалася, быў сам страшэнна ня рады забітаму голу.

Наступным ранкам загалоўкі вядучых італьянскіх газэт былі прысьвечаныя ашаламляльнай перамозе беларусаў зь лікам 1:1. Ніхто ня мог адказаць, што здарылася зь некалі славутай зборнай Італіі. Чаму такім зьніякавелым выглядаў форвард, які выходзіў біць пенальці, відавочна падстроены беларусамі на карысьць Італіі? Паднаготная крыецца глыбей за віціяватыя адмазкі спартовых аглядальнікаў, што нібыта «скуадра адзура» яшчэ не дасьцігла піку былой формы, слаба настроілася і ў гэткім духу. Сапраўднага адказу не прыйшлося доўга чакаць. Наступным ранкам у канторы букмэкераў па грошы зьявіўся той самы вышэй-згаданы «ідыёт», які напярэдадні быў аб'ектам зьдзекаў усіх аматараў таталізатару ў Італіі. Зносіць мяшкі наяўных ліраў яму дапамагалі маўклівыя суровыя дзецюкі ў чорных строях. Пасьля ўся гоп-кампанія села ў шыкоўныя «лімузыны» без нумароў і скрылася ў джунглях італьянскіх баньлё. Калі паліцыя дзеля галачкі зацікавілася згаданымі пэрсанажамі, усплылі сэнсацыйныя факты. «Ідыётам» аказаўся адзін зь вядучых фінансістаў калабрыйскай мафіі Чырына, на якім дасюль вясіць маса мокрых справаў, уключаючы забойства камісара Катані.

**«Людзі са шнарамі ў белых гетрах заказваюць гульню і зрываюць банк»**

Справа ў тым, што крыніцамі заробку мафіі даўно ўжо сталі махінацыі на таталізатары. Неяк падбіраючы кандыдата на «цёмнага коніка» гангстэры міжволі зьвярнулі ўвагу на невялікую ўсходнеэўрапейскую краіну, чыя зборная да сёньня стабільна замыкала табліцы ўсіх эўрапейскіх турніраў. Лепшай каманды за зборную Беларусі для шахрайства было не знайсьці. А астатняе было хвіліннай справай – напярэдадні матчу зь беларусамі на футбалістаў «скуадра адзуры» наехалі так, што тыя забыліся, якой рукой нельга гуляць у футбол. Таму, хто асьмеліўся пераступіць мяжу няпісанага закону мафіі «Амэрто» (я маю на ўвазе бедалагу-форварда, які забіў адказны гол у варота беларусаў), можна сьмела пачынаць зайздросьціць мерцьвякам. З мафіяй такія жартачкі не праходзяць. На днях у доме, дзе жыве форвард, невядомыя спалілі паштовую скрыню. Зразумела, што пасьля гэтага ўся фамілія вырашыла не гуляць зь лёсам і сьпешна выехала за мяжу.

А ў нашай зборнай пэрспэктывы самыя сьветлыя – наперадзе чэмпіянаты Эўропы, а праз якія тры гады й чэмпіянат Сьвету. Калі мафіёзныя кланы і далей ня будуць забываць пра хлопцаў Вергіенкі, то лічыце, што залаты Кубак Сьвету – у нашай кішэні. ●

**Джылеба Рубіні**